АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

17 – 23 СНЕЖНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ

№51 (243)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 18 снежня | | Нядзеля, 19 снежня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -1°C | -1°C | -3°C | -4°C |
| Удзень | +4°C | +2°C | 0°C | 0°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Гарвыканком шкадуе

Пасля рашэння нямецкага горада Эслінгена аб «замарожванні» афіцыйных сувязяў з Маладзечнам мясцовыя ўлады даслалі ў Германію ліст за подпісам старшыні гарвыканкома **Станіслава Татарыновіча**. Адрасаваны ён обербургамістру Эслінгена **Юргену Цыгеру**.

У лісце выказваецца думка, што «рэзалюцыя гарадскога Савета і адміністрацыі Эслінгена не мае ніякага дачынення да дзеянняў адміністрацыі і гарадскога Савета Маладзечна, якія прывялі б да незахавання падпісанай абодвума бакамі Дамовы аб партнёрскіх сувязях, а таксама супярэчаць яго духу і літары.

Мы шкадуем, але прынятае Вамі рашэнне не можа не адбіцца і на кантактах, устаноўленых жыхарамі нашых гарадоў на асабістай аснове».

«Шаноўны Юрген! – звяртаецца старшыня Маладзечанскага гарвыканкома. – Як ні сумна, мы вымушаныя прызнаць, што вашае палітычнае рашэнне – гэта не прыпынак, а крок у адваротны бок і зроблены ён не ў інтарэсах будучага гараджанаў абодвух гарадоў. Спадзяюся, што здаровы сэнс пераможа і ў самай хуткай будучыні я зноў змагу прыняць цябе на гасціннай зямлі Беларусі ў г. Маладзечна».

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Станцыя Гудагай у зоне. Рэжымнай

Пра існаванне на станцыі Гудагай пунктаў мытнага і пагранічнага кантролю ведае кожны, каму даводзілася ездзіць у Літву. Знешне, праўда, станцыя прыкмет іхняга існавання да нядаўняга часу не выяўляла, калі не браць пад увагу, што паблізу размешчаныя адміністрацыйныя будынкі мытні і пагранічнікаў.

Пакрысе тут усё мяняецца. Смаргонскае прадпрыемства меліярацыйных сістэм умацавала сетку на працягу ўсёй рэжымнай зоны, а замежнае прадпрыемства "Новыя ўсходнія інвестыцыі" плануе адкрыць тут краму бяспошліннага гандлю. Калі хопіць грошай на ўсе работы, то пункт мытнага і пагранічнага кантролю "Гудагай" амаль нічым не будзе адрозніваццa ад сваіх аналагаў у Гродне ці Брэсце.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## І ў «Кушлянах» будзе газ

Пачата праектаванне новага газаправода высокага ціску, які злучыць размеркавальны пункт Асінаўшчызна каля горада з вёскай Асіпаны, што мяркуецца на будучыню як новы цэнтр калгаса «Кушляны». Даўжыня новай «трубы» складзе каля дзесяці кіламетрау.

Будавацца будзе новы газапровод на сродкі калгасаў «Кушляны» і «Дружба народаў» – па 10%, пагранічнага атрада і птушкафабрыкі – па 20%, завода для сушкі агародніны – 30%. 10% выдаткаў бярэ на сябе «Гроднааблгаз».

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Спыніў існаванне фонд Гашкевіча

Створаны яшчэ ў часы СССР, фонд Іосіфа Гашкевіча павінен быў, як тады здавалася, садзейнічаць даледаванню многіх невядомых бакоў жыцця даследчыка, наладжванню сувязяў паміж Беларуссю і Японіяй. Напачатку так і адбывалася, у райцэнтры нават адкрылі помнік вядомаму земляку.

Планавалася, што фінансаванне фонду будзе адбывацца са спонсарскіх і іншых сродкаў, але на практыцы, на жаль, так не атрымалася і нядаўна фонд спыніў сваё існаванне.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Хлеб у якасці падарунка

13,5 тоны хлеба на Новы год падарыла вернікам парафіі Смаргоні германская дабрачынная рэлігійная арганізацыя "Карытас".

Хлеб запакаваны ў герметычныя бляшанкі з нержавейкі і разлічаны на 30 год захоўвання (10 з іх прайшло ўжо).

У гэтым хлебе грубага памолу, як сцвярджаюць урачы, захаваліся ўсе карысныя рэчывы. Падарунак раздалі маламаёмным.

*Тарэза КУМІШЧА.*

МЯДЗЕЛ

## 911 «па–зубраняцку»

У горадзе пакуль не існуе аварыйна–выратавальнай службы (да прыкладу, у Маладзечне яна ёсць), і ўсе спецыфічныя пытанні вырашаюць пажарныя і міліцыя. Даюць адпаведныя веды і юным пажарным.

На злёце ў летніку "Зубраня" агняборцаў вучаць у басейне ратаваць тапельцаў, дэманструюць айчынныя і замежныя фільмы з серыі "Служба выратавання". Калі б заняткі праводзіліся сярод дарослых, у праграме, магчыма, стаяў бы курс "роды ў экстрэмальных сітуацыях".

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛЮТНЫ РЫНАК

# Долар дачакаўся амністыі

Ізноў прадпрынятая спроба лібералізацыі рынку наяўнай валюты – тэлеграмай Нацыянальнага банка зняты абмежаванні пры ўстанаўленні курсаў куплі-продажу замежнай валюты. Здаецца, заканчваецца чарговая спроба (якая, як і ўсе ранейшыя, скончылася поўным правалам) насуперак здароваму сэнсу ўтрымліваць далёкія ад рэальнасці курсы на ўзроўні ў 300-320 тысяч рублёў за долар.

У гэтага кроку будзе шмат наступстваў. І галоўнае, напэўна, нават не ў тым, што, нарэшце, грамадзяне змогуць купіць валюту без пагрозы трапіць пад адміністрацыйна-крымінальныя санкцыі: усе тыя, каму яна была патрэбная, за тры гады адсутнасці легальнага валютнага рынку даўно навучыліся знаходзіць месцы для яе куплі. Уся краіна стала месцам суцэльнай куплі-продажу валюты па рэальных курсах, далёкіх ад афіцыйных каціровак. Лічу, што важней маё законнае права (якое на пэўны час адабралі чыноўнікі) карыстацца банкаўскімі паслугамі па абмене валюты, а не прыніжаць сябе пошукамі вавлютчыкаў.

Магчыма, што валюта не адразу з'явіцца ў банках. Магчыма, што ў выніку чарговага крызісу ў Расіі (з-за палітычных, перадвыбарных ці армейскіх страсцей) курс нашага рубля ўпадзе да мільёна (тысячы пасля дэнамінацыі) за долар, а які-небудзь чыноўнік у страху перад вывалачкай за дрэнныя паказчыкі пабаіцца і зноў прыйдзе тэлеграма трымаць калідор у нейкіх віртуальных памерах. Але ўсё адно: разам з лібералізацыяй валютнага рынку, нават калі гэтая мера станецца часовай, краіна страчвае яшчэ адну прыкмету адміністрацыйна-каманднай эканомікі – самай рэліктавай у Еўропе.

*Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.*




*Работнік ЗАТ «Струм» Ігар Сівец «спалохаўся» бязлюддзя ў аперацыйнай зале абменніка. Ягоны прагноз: пасля Новага года рынaчны курс долара значна адарвецца ад «камерцыйнага». А сённяшняя ўраўнілаўка — проста палітычны крок.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

«За апошнія гады ўладамі назапашаны вялікі досвед па адміністрацыйным рэгуляванні валютнага рынку, якое ў канчатковым выніку ні да чаго не прывяло, таму я мяркую, што на гэты раз лібералізацыя прыйшла да нас надоўга», – лічыць былы кіраўнік Нацыянальнага банка **Станіслаў Багданкевіч**.

Работнік аднаго з камерцыйных банкаў лічыць, што рашэнне Нацбанка не дасягне мэты: «лібералізацыя ў нейкай ступені выб'е глебу ў «чорнага» рынку, але далёка не поўнасцю: застаюцца абмежаванні па продажы валюты насельніцтву (не больш за 200 долараў ЗША ў адны рукі), а таксама патрабаванні аб прадастаўленні пашпартных дадзеных пры яе набыцці, што задаволіць далёка не ўсіх».

Яшчэ адзін банкаўскі работнік у размове засяродзіў увагу на нявыгаднасці работы банкаў на легальным рынку, паколькі яны не могуць пераводзіць сродкі з наяўнага рынку на безнаяўны і цяпер маюць права прадаваць набытую ў насельніцтва валюту або толькі самому насельніцтву, або Нацбанку. Падатак жа з атрыманай курсавой розніцы дасягае 55%. Прыбытак, які застаецца, можа пакрыць расходы на ўтрыманне абменных пунктаў толькі пры вельмі высокіх грашовых абаротах, што бліжэйшым часам не ўяўляецца магчымым.

Наколькі вядома рэдакцыі, у першыя дні ажыятажу ў прыёмных пунктах валюты не назіралася. Банкі спасылаюцца на камерцыйную тайну, таму звестак пра куплю-продаж не даюць, але ў адным з абменнікаў раздражнёна адказалі: нуль цэлых, нуль дзесятых!

«Валютчыкі» гавораць, што лібералізацыя наяўнага курсу ўнесла пэўную сумятню ў работу «чорнага» рынку. Аднак яны лічаць, што «ценявы» курс долара ЗША будзе перавышаць банкаўскі на дзесятак тысяч рублёў, а ў студзені, пасля традыцыйнага скачка, рынак зноў стане заканадаўцам мод, паколькі Нацбанк наўрад ці дазволіць банкам гнацца за «чорным» курсам.

*БелаПАН,*
*Сямён РАБІНОВІЧ.*

ФОТАФАКТ





*На могілках па вуліцы Першамайскай.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

## Стыхія і злодзеі не пашкадавалі могілкі ў Вілейцы

На могілках Вілейкі, акрамя звычайнай цішыні, – чысціня. Камунальныя службы пасля стыхіі аператыўна навялі тут парадак: паваленыя дрэвы распілавалі і вывезлі, прыбралі смецце. На жаль, вецер не пашкадаваў помнікі. Калі памерлым, мабыць, усё адно, то жывым – клопаты. Каб ліквідаваць такія наступствы, патрэбныя грошы і час.

А на могілках па вуліцы Каралёва падчас стыхіі (ці пасля яе?) знікла частка агароджы – 42 метры штыкетніку.

Высвятляецца вінаваты: вецер гэта ці чалавек.

*Марына [illegible].*



Вось такі спакойны быў Астравец у той дзень.




«Лясная» таможня таксама не спіць.

# Зялёнае мястэчка на мяжы з Літвой

*Астравец — гарадскі пасёлак на рацэ Лоша. Цэнтр Астравецкага раёна. Знаходзіцца за 250 кіламетраў ад Гродна. Ад чыгуначнай станцыі Гудагай — 4 кіламетры, на лініі Маладзечна — Вільнюс. Аўтадарогай злучаны з Ашмянамі.*
*Вядомы з 1468 года ў складзе Віленскага ваяводства. Належаў Гаштольдам, Карыцкім, Корсакам, у XIX стагоддзі — Кастравіцкім, Сыцянкам. З 25 красавіка 1958 года — гарадскі пасёлак.*
*У Астраўцы працуюць прадпрыемствы харчовай, дрэваапрацоўчай прамысловасці, будаўнічых матэрыялаў. (Беларуская энцыклапедыя, том 2, Мінск, 1996).*
*Насельніцтва Астраўца складае 8,4 тысячы жыхароў (папярэднія вынікі перапісу, 1999 год).*

## Да Літвы – рукой падаць

Яшчэ на станцыі Гудагай адчуваецца, што непадалёку граніца, бо паўсюль стаяць слупкі, на якіх зазначана: рэжымная зона, уваход толькі па прапусках. Сапраўды, ад Астраўца да Літвы ўсяго нейкі дзесятак кіламетраў. Былі, натуральна, на станцыі і пагранічнікі.

Непасрэдна станцыю і Астравец раздзяляе 4 кіламетры шашы, з абодвух бакоў якой – густы лес. Раніцой ён быў лагодны і бяспечны, сонейка грала на вяршынях дрэў. Але ўвечары дрэвы ператварыліся ў нешта змрочнае, таму ў першую чаргу згадвалася пра ўласную бяспеку.

Тым больш, што дарога тут мае некалькі крутых паваротаў. Машыны імчаць на вялікай хуткасці, таму трэба заўсёды быць пільным. Не адно жыццё абарвалася на гэтай дарозе, пастаянна відаць памятныя жалобныя знакі па баках трасы.

На ўездзе ў Астравец стаіць АЗС: бензіну, вядома, і тут няма. А прыгожае мястэчка нагадвае, хутчэй, летнік, чым населены пункт. Уражанне, што вуліцы знаходзяцца ў лесе, столькі на іх хваёвых дрэў.

## Дрожджы не трэба?

Першы канктакт з мясцовымі атрымаўся даволі арыгінальным. На вуліцы дзядок–пенсіянер стрэльнуў вокам на фотаапарат, што я трымаў у руцэ, і збянтэжыў фразай:

– Дрожджы не трэба?

Пасля секунднага разважання вырашыў, што дрожджы мне ўсё ж такі не патрэбныя.

Праз колькі соцень метраў убачыў вялікую колькасць людзей, якія пастаянна перамяшчаліся і гаманілі. Значыць, базар! Астравецкі рынак з'яўляецца зменшанай копіяй маладзечанскага рэчавага. Ажытаж быў там, дзе прадавалі прадукты, а на адзенне, скураныя вырабы попыту амаль не было.

Затое адкрыта ішло тое, што называецца "незаконнымі валютнымі аперацыямі". За 20 хвілін два разы бачыў, як валютчыкі спакойна робяць сваю справу.

## Знакаміты зямляк–спартсмен

Аўдыёкасеты каштуюць 550–600 тысяч, але выбар даволі вялікі. Астравецкая ж моладзь нічым не адрозніваецца ад маладзечанскай: на вяршыні хіт–параду тыя ж "Дэма" і "Рукі ўверх".

Пік людскога руху на вуліцах прыходзіцца на час, калі ў абедзвюх мясцовых школах заканчваюцца ўрокі. У аднаго з вучняў, што павольна ішоў уздоўж дарогі, была нейкая дарослая сур'ёзнасць на твары – шасцікласнік СШ №2 **Павел Брызевіч** на пытанне "каго са знакамітых землякоў ты ведаеш?" расказаў пра свайго земляка–спартсмена, які займаецца ўсходнімі адзінаборствамі. Але імя яго не змог успомніць, не дапамаглі ў чым і ягоныя сябры. Бацька хлопца працуе шафёрам, маці – на пошце. Двое дарослых зарабляюць разам 22–24 мільёны ў месяц. А сам Павел займаецца лёгкай атлетыкай.

У адрозненне ад валожынцаў, астраўчане ішлі на кантакт даволі лёгка. Асабліва гэта тычыцца маладых астраўчанак.

"Пераможцамі ў апытанні пра вядомых астраўчан" сталі **Люда Казлоўская** і **Люба Буданава**, 11–класніцы СШ №2. Акрамя першага консула Расіі ў Японіі **Іосіфа Гашкевіча** і літаратуразнаўцы **Адама Мальдзіса**, яны назвалі двух мастакоў: **Богуша Шышку** і **Андрэя Самуся**. Дзеля таго, каб сфатаграфацца на фоне касцёла Узнясення Святога Крыжа, дзяўчаты не пашкадавалі свайго часу на дарогу туды і назад.

Яшчэ ў "апытанні" ўдзельнічала адзінаццацікласніца СШ №1 Святлана, якая назвала Гашкевіча пісьменнікам. З нейкага боку, дзяўчына мела рацыю, бо ён, акрамя ўсяго, выдаваў руска–японскія слоўнікі.

Адмовіліся сфатаграфавацца Алег, які вывучае на курсах ПЭВМ, інтэлігентная жанчына і прадавец музычнага кіёска – усе яны ведаюць сваіх найзнакамітых землякоў.



Бюст Іосіфа Гашкевіча.

## Мяжа для цэнаў

У Астраўцы можна купіць фотаапарат "Зеніт" за 22 мільёны 222 тысячы рублёў (цікавая лічба – толькі двойкі). Не дэфіцыт там масла – 942 тысячы. Пра тое, што недалёка мяжа, нагадвае паліца з надпісам "Канфіскаваныя тавары". Кампакт–дыскі (без гарантыі) каштуюць 200 тысяч рублёў, аправа для акуляраў – 20 тысяч, спінінг – 2 мільёны (падобна, што тут любяць лічбу "2").

Шакаладкі "Снікерс" і "Марс", салёныя арэшкі каштуюць даражэй: 250 і 150 тысяч (у Маладзечне 205–220 і 95–110 тысяч адпаведна). Алей можна купіць за 650–700 тысяч, а айчынны шакалад (100 г) – за 140 тысяч.

## Піражкі на закуску

Ёсць у Астраўцы магазін, які запомніўся тым, што там ёсць піражкі з гумай. Праўда, напісана, што гэта піражкі з тварагом. Сапраўды, гума мела белы колер. Але пражаваць гэты "прадукт" было немагчыма. Праўда, у магазіне прадаюць алкагольныя напіткі, і на закуску піражкі ідуць добра, тым больш, што ёсць пастаянныя кліенты.

З адваротнага боку магазіна кліенты наладзілі грамадскі туалет. А па вуліцы, у дзесятку метраў, нясуць дзяжурства міліцыянеры.

Пасля трох гадзін дня вуліцы пусцеюць, бо хутка будзе цямнець. Жыццё ў Астраўцы практычна замірае да наступнай раніцы.

*Юрый КАРПІЦКІ.*



Мытныя тавары.



Птушкі тут бываюць розных відаў...



... і не абавязкова «жывыя»



Рака Лоша. Гэтая частка ўжо скаваная лёдам.



Святлана.



Гэты мост знаходзіцца ў самым цэнтры Астраўца.



Павел Брызевіч.



Даехаць не хапіла сіл.

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

КАДРЫ

## Прызначэнні

АСТРАВЕЦ. Апошнімі тыднямі на Астравеччыне адбываецца шэраг кадравых змен. Яны пачаліся з таго, што быў зменены старшыня выканкома, а напачатку мінулага тыдня змянілася начальства ў мясцовым райаддзеле міліцыі.

**Яраслава Халецкага** перавялі на аналагічную пасаду ў Слонім, а яго месца заняў начальнік кадравага апарату маёр **Уладзімір Кабрынец**. Мяркуецца таксама, што пракуратуру Свіслацкага раёна можа ўзначаліць цяперашні намеснік пракурора Астравецкага раёна **Анатоль Іванюк**.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Валожыне пануе тыфус

**М. Хаценчыцы, Віленскай губ., Вілейскага пав.**

Было надрукавана, што тут маняцца зрабіць паказное поле. На гэта поле памешчык Высоцкі даў землі дарма, а не за грошы, як пісалася ў "Н. Н."

*К.*

**Г. Радашковічы, Віленскай губ., Вілейскаго пав.**

Недаўна два хлапцы, падпіўшы ў рэстаране, выйшлі на вуліцу і сталі чэпляцца да людзей. Каля млына так сама прычапіліся да аднаго і, схапіўшы яго за рукі і ногі, укінулі ў возеро. Той нарабіў гвалту і яго выратавалі. Ідзе следство.

*Юзя.*

**М. Валожын, Мінскай губ., Ошмянскаго пав.**

У мястэчку – найбольш, па габрэйскіх хатах – пануе тыфус. У Налібоцкай пушчы напала на скаціну "Сыбірская язва". Праз Налібоцкую пушчу маняцца правесьці жалезную дарогу. Нядаўна ў нас былі муштры стражнікаў і ураднікаў; спраўляліся нішто.

*Шпухтаваты.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №51–52 ад 17 дзекабра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

ПРАБЛЕМА

## Пасажыры чакаюць электрычку

*МАЛАДЗЕЧНА. Не першы год вядуцца размовы пра будаўніцтва чыгуначнага прыпынку ў раёне шостага мікрараёна. Да рэалій справа пакуль не даходзіць.*

Галоўны архітэктар горада **Анатоль Згрунда** гаворыць, што чыгунка праектную дакументацыю падрыхтавала, яна ж будзе і фінансаваць будаўніцтва. Калі з'явяцца грошы, то адразу пачнем будаўнічыя работы.

Начальнік чыгуначнага вакзала станцыі Маладзечна **Надзея Стаўпінская** валодае крыху іншай інфармацыяй:

– Выбар месца ўжо зроблены, чыгунка аддала праект, і цяпер справа за горадам; згодна з дамоўленасцю, праект распрацоўвае чыгунка, а грошы знаходзіць горад.

Сітуацыю згадзіўся праясніць начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва гарвыканкома **Іван Кунцэвіч**:

– Планавалася, што прыпынак пачнуць будаваць сёлета, але запланаваных кіраўніцтвам Беларускай чыгункі сродкаў не хапіла, і мы іх выкарысталі на правядзенне іншых мерапрыемстваў, таму работы пераносяцца на наступны, 2000–ы год. Чыгуначнікі падрыхтавалі праект яшчэ два гады таму, але спачатку было вырашана добраўпарадкаваць пераезд каля мясакамбіната.

Відавочна, што справа, найперш, ў фінансаванні. Каб убачыць электрычку на доўгачаканым прыпынку, трэба, каб гарадскія і абласныя ўлады, кіраўніцтва чыгункі ўзгаднілі–аб'ядналі свае дзеянні.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

ВІДАВОЧНАЕ–НЕВЕРАГОДНАЕ

***МАЛАДЗЕЧНА. Міжрайпракурор Генадзь Вештарт пасля аналізу адпаведных статыстычных дадзеных упэўнены, што праблемай №1 у бліжэйшай будучыні стануць п'янства і самагонаварэнне. «Алкагольныя паказчыкі» ідуць уверх – усё больш людзей прыцягваецца да адказнасці за распіццё спіртнога на рабоце, у грамадскіх месцах, за самагонаварэнне, павялічваецца колькасць дастаўленых у медвыцвярэзнік, большае нецвярозых за рулём аўтамабіля.***

***Па дадзеных судова-медыцынскай экспертызы, сёлета на Маладзечаншчыне ад атручэння алкаголем памерла ўжо амаль чатыры дзесяткі чалавек.***

## Калі Ігар К. спаў паміж рэйкамі чыгуначнай каляі, яго пераехаў цягнік



ФОТАКАЛАЖ АЛЕНЫ ЯЎГРАШЫНАЙ.

МАЛАДЗЕЧНА. Нападпітку Ігар не дайшоў дадому. Высока ўзнімаць ногі не атрымлівалася, таму чыгунка на шляху стала перашкодай. Спаць ён уладкаваўся на свежым паветры, паміж рэйкамі чыгуначнай каляі. Спаў моцна і не пачуў, калі над ім прайшоў цягнік. Супрацоўнікі міліцыі на транспарце выцягнулі Ігара з–пад вагона электрычкі і разбудзілі. Той, як убачыў людзей у форме, у сэрцах выдаў:

– Ну і сябра, блін. Разам пілі, а ён "мянтам" мяне здаў!

– Гэта байка, – адгукнуўся на гісторыю **Павел Караняка**, які 20 год адпрацаваў раз'язным лінейным фельчарам вузлавой палікінікі станцыі Маладзечна.

У пацверджанне сваіх слоў ён пачаў чарціць схемы:

– Вось калі б тут знаходзіўся, мог і не пацярпець. А непасрэдна ў каляі, накрыты цягнікам... Гэта нерэальна, фантастычна.

У мінулую нядзелю электрычка па раскладзе пайшла на Мінск у 18.27. Перад пераездам, што пад нуцеправодам, ліхтары лакаматыва высвецілі на рэйках чалавека. Машыніст імгненна ўключыў экстраннае тармажэнне. Што было ў вагонах, можна сабе ўявіць. У асноўным, мусіць, ехалі студэнты, маладыя і здаровыя. Па медыцынскую дапамогу да машыністаў ніхто з пасажыраў не звяртаўся.

– Патэлефанаваў аператар пры дзяжурным на станцыі, – гаворыць старшы інспектар–дзяжурны Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Сяргей Герасімовіч**, – паведаміў, што электрацягнікам збіла чалавека пад пуцеправодам. Я адразу адправіў на месца аператыўную групу.

Першым жа на месцы здарэння аказаўся сяржант патрульна–паставой службы на транспарце **Дзмітрый Варановіч**:

– Мы суправаджалі электрычку. Пасля рэзкага тармажэння па рацыі перадалі, што пад шостым вагонам – чалавек. Хаця да ўсяго звыклыя, аднак даставаць па частках з–пад колаў разрэзаны труп жудасна. Скажу шчыра: вельмі хваляваўся.

Міліцыянеры пачалі выцягваць цела. На кавалкі яно не развальвалася, крыві не было. Чалавек ляжаў паміж рэйкамі на спіне. Без прыкметаў болю, шоку, але, наогул, і жыцця. Цела вызвалілі, паклалі побач з каляёй, пачалі правяраць на наяўнасць траўмаў. Якое ж было агульнае здзіўленне, калі мужчына, якога выцягнулі з–пад цягніка, самастойна сеў, расплюшчыў вочы і абклаў усіх мацюкамі.

Сяргей Герасімовіч:

– У дзяжурцы "ахвяра" амаль што нічога не магла сказаць. На ўсе нашыя пытанніківала галавою ці адказвала "не памятаю", "не ведаю". Незадаволеная была, што пабудзілі.

У графе "Тлумачэнні парушальніка" **Ігар К.** руска-кітайскімі літарамі вывеў: "Выпил 1 литр водки".

Памочнік машыніста **Барыс Радкевіч**:

– Я ваджу грузавыя цягнікі. Даўно пераканаўся, што для моцна п'яных чыгунка – смяротная перашкода. Днямі затармазілі на станцыі Аляхновічы. Дзяўчына спала ля каляі. Прычым, галава яе ўпіралася ў рэйку. Калі б на сантыметры 3 узняла галаву – смерць. Адвёў выпівоху (як потым высветлілася, ёй 15 год) да дзяжурнага па станцыі. А што тычыцца Ігара К., такое можа быць. Летась, зімнім днём на перагоне Багданаў – Юрацішкі экстранна спынілі цягнік. Тармазны шлях залежыць ад хуткасці, колькасці вагонаў. З–пад апошніх вагонаў выцягнулі хлопца. Спаў п'яны ў каляі паміж рэйкамі. Ад цягніка траўмаў не атрымаў. Хіба толькі ад нас.

Павел Караняка:

– Я працаваў раз'язным фельчарам з 1957 года па 1977. Усякага нагледзеўся. Памятаю, як стрэлачніцу літаральна наматала на колы. Тады мы трангелі (такія металічныя палоскі, якія сантыметраў 20 не даходзяць да каляі) адпілоўвалі, каб вызваліць цела, дакладней, сабраць яго часткі. А што тычыцца гэтага выпадку, я ўзгадваю вось які. На станцыі Залессе "дэмбелі", што ехалі са службы дадому, пакінулі цягнік Калінінград–Харкаў, каб купіць гарэлку. Спазніліся, ускочылі на лесвіцу апошняга вагона. Паколькі дзверы вагона ўжо зачынілі, узабраліся на дах і так даехалі да Маладзечна. А вось там падняліся на ногі і закранулі салдацкімі фуражкамі электраправады. 27 тысяч вольт атрымалі. Загінулі, зразумела. Дык вось, у электрычцы пад токам не толькі верх, але ёсць прыстасаванні пад токам і ўнізе. А калі ўлічваць, што надвор'е цяпер мокрае ды і мужчына праляжаў на зямлі нейкі час? Каб яго мокрая вопратка сутыкнулася з днішчамі вагонаў, тыя ж 27 тысяч вольт атрымаў бы.

34–гадовы Ігар К. нарадзіўся ў Смаргоні і, мабыць, пад шчаслівай зоркай. У Маладзечне працуе мулярам, быццам бы і нядрэнна.

– З кім не здараецца, – гавораць ягоныя сябры. – Ну, выпіў, заснуў на чыгунцы. Не забіў жа нікога.

Пра сваё "геройства" Ігар не памятае. Ды і падобных прыгод у ягоным жыцці хапае. У канцы лістапада заснуў на ўваходзе ў гарадскі парк. Прачнуўся ў медвыцвярэзніку.

Мая знаёмая сказала:

– А што тут здзіўляцца? Такім заўсёды шанцуе.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 9 снежня | 16 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 315 000,00 руб. | 318 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 164 978,68 руб. | 163 322,48 руб. |
| Літ | 78 728,35 руб. | 79 301,75 руб. |
| Рас. руб. | 11 750,00 руб. | 11 860,00 руб. |
| Злоты | 75 426,52 руб. | 75 230,66 руб. |
| ЕЎРА | 322 670,25 руб. | 319 431,00 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

Долар ........ 720 000–750 000 руб. ..... 720 000–750 000 руб.

### МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 8.12 | 15.12 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 795 | **820** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2600 | **2860** |
| Сасіскі | 1 кг | 642 | **641** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 630 | **620** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 230 | **235** |
| Алей | 1 л | 550 | **560** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 347 | – |
| Маянэз | 250 г | 110 | **140** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 780 | **780** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 260 | **260** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | **200** |
| Лімоны | 1 кг | 650 | **650** |
| Бананы | 1 кг | 420 | **450** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 160 | **160** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 400 | **400** |
| Масла | 1 кг | 1200 | **1300** |
| Тварог | 1 кг | 400 | **500** |
| Малако | 1,5 л | 180 | **180** |
| Бульба | вял.вядро | 600 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 600 | **700** |
| Яблыкі | 1 кг | 300 | **300-400** |
| Капуста | 1 кг | 70 | **100** |
| Морква | 1 кг | 140 | **150** |

ДАВЕДКА "РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ"

***Гэта – маленькі эксперымент газеты. Вам неабходныя такія звесткі? Ёсць тэлефонныя даведкі, даведачныя тэлефонныя службы... Між тым, у даведніках адрасы і тэлефоны могуць быць састарэлымі, а час работы ўвогуле не ўказваецца. Мы маем намер змяшчаць звесткі аб тых службах і ўстановах, да паслуг каторых людзі звяртаюцца штодня. Пачалі з медыцыны ў Маладзечне. Любыя вашыя прапановы і водгукі, дарагія чытачы, будзем радыя выслухаць па рэдакцыйных тэлефонах 53841, 69667.***

### МАЛАДЗЕЧНА. Медыцына, фармацэўтыка

*Бальніцы*

**Гарадская** .......... **54605** *(прыёмны пакой №1) 8.00 – 20.00*
*Чкалава, 3* **54782** *(прыёмны пакой №2) 20.00 – 8.00*
**Дзіцячая** .......... **70739** *(прыёмны пакой) кругласутачна*
*Валынца, 8*
**Раёная** .......... **70684** *(прыёмны пакой) кругласутачна*
*Валынца, 1*

*Паліклінікі*

**Гарадская** .......... **63001** *(рэгістратура) 7.00 – 20.00*
*Скарыны, 5* **056** *(выклік урача),* **057** *(заказ талона)*
**Дзіцячая** .......... **71711, 71666** *(рэгістратура) 7.00 – 19.00*
*Віленская, 11* **062** *(выклік урача)* **063** *(заказ талона)*
**Раённая** .......... **74523, 75060** *(рэгістратура) 8.00 – 18.00*
*Валынца, 1*

*Стаматалагічныя паліклінікі*

**Гарадская** .......... **66930** *(рэгістратура) 7.00 – 21.00*
*Вялікі Гасцінец, 88* **058** *(заказ талона),* **60273** *(рэгістратура артапедычнага аддз.) 8.00–17.00*
**Дзіцячая** .......... **059** *(рэгістратура) 7.00 – 20.00*
*Вялікі Гасцінец, 58*
**Камерцыйная** .......... **71241** *(рэгістратура) 7.30 – 17.00*
*Валынца, 11*

*Дыспансеры*

**Псіханеўралагічны** .......... **54672** *(рэгістратура) 8.00 – 18.00*
*Вялікі Гасцінец, 58*
**Скурна–венералагічны** ..... **71684** *(рэгістратура) 8.00 – 18.30*
*Грамадоўская, 6*
**Спартыўнай медыцыны** ... **70987** *(дзяжурны) 8.00 – 19.45*
*Віленская, 56*

*Медвыцвярэзнік*

**Медвыцвярэзнік** .......... **75013** *(дзяжурны) кругласутачна*
*Грамадоўская, 17*

*Аптэкі*

**№1** .......... **68221** *8.00 – 17.00*
*Галіцкага, 12* *(субота 8.00 – 12.00), акрамя нядз.*
**№110** .......... **71278** *8.00 – 21.00*
*Прытыцкага, 10* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**№111** .......... **71795** *8.00 – 20.00*
*Старое Места, 19* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**№180** .......... **63213** *8.00 – 21.00*
*Скарыны, 10* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**№198** .......... **60338** *8.00–20.00*
*Міру, 2а* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**№7** .......... **71991** *8.00 – 20.00*
*Купалы, 110* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**№9** .......... **70621** *9.00 – 19.00*
*Віленская, 11а* *(суб. 9.00 – 15.00), акрамя нядз.*
**Дыябетычны саюз** ...... **60325** *9.00 – 20.00*
*Вялікі Гасцінец, 75* *(нядз. 9.00 – 16.00)*
**№60** .......... **53636** *8.00 – 20.00*
*Маўчанскага, 3* *(суб. і нядз. 9.00 – 16.00)*
**"Белмедпрэпараты"** ... **50992** *9.00 – 19.00*
*Будаўнікоў, 10* *(суб. 9.00 – 14.00), акрамя нядз.*
**№27** .......... **68651** *9.00 – 20.00*
*Будаўнікоў, 26* *(суб. 9.00 – 16.00, нядз. 9.00 – 15.00)*
**"Дока"** .......... **60449** *8.00 – 19.00*
*Вялікі Гасцінец, 74б* *(суб. 9.00 – 14.00), акрамя нядз.*
**"Дока"** .......... **71157** *8.00 – 19.00*
*Валынца, 14* *(суб. 9.00 – 14.00), акрамя нядз.*

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка

ад Анатоля Рогача, Вілейка



**Па гарызанталях:** 5. Ніжні паверх глядзельнай залы з месцамі для публікі. 7. Назва спецыяльнага партызанскага атрада НКДБ, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнічаў у Беларусі, у тым ліку, і ў Валожынскім раёне. 9. У старажытнагрэчаскай міфалогіі шчыт Зеўса, сімвал заступніцтва і гневу багоў. 12. Электравакуумны дыёд, прызначаны для выпрамлення пераменнага току. 13. Лекавая форма – вадкая мазь. 14. Поспех, патрэбны або жаданы выход справы. 15. Двухколавая антычная калясніца, запрэжаная чацвёркай у адзін рад. 16. Пустыня ў Сярэдняй Азіі. 17. Абласны цэнтр на Украіне. 20. Голуб асаблівай пароды, які мае здольнасць куляцца пры палёце. 24. Прыхільнікі грэка–каталіцкай царквы. 27. Тое ж, што і слепата. 28. Трохмачтавае парусное судна. 29. У старыну ў казакоў: сходка для падзелу здабычы. 30. Германскае племя, у некаторых раманскіх мовах назва немцаў. 31. Прынц Уэльскі, які насіў прозвішча "Чорны прынц". 34. Спецыяльнасць урача. 38. Амерыканскі вучоны, які ўпершыню атрымаў цяжкую ваду ў 1933 годзе (сумесна з Р. Макдональдам). 41. Піражок з тварагом. 42. Тое, што і чарніла. 43. Група асоб, якая стаіць з мэтай дэманстрацыі грамадскага пратэсту, вырашэння якіх–небудзь патрабаванняў. 44. Горад і порт у Балгарыі на рацэ Дунай. 45. Спосаб рашэння задач, адно з асноўных паняццяў матэматыкі і кібернетыкі. 46. Прарыў фронту і глыбокае ўкліньванне ў размяшчэнне войскаў праціўніка. 47. Горад у Кіеўскай вобласці. 48. Кампазітар, родапачальнік рускай класічнай музыкі.

**Па вертыкалях:** 1. Вышэйшае званне ў рыцарскім ордэне. 2. Воінскае званне. 3. Войскі, якія абараняюць апорны пункт. 4. Адхіленне ад нормы, ад агульнай заканамернасці. 6. Французскі жывапісец, графік і скульптар, прадстаўнік імпрэсіянізму. 7. Дробная марская рыба сям'і селядцоў. 8. Іспанскі мысліцель, урач, які па ўказанні Ж. Кальвіна быў спалены на кастры. 10. Сапраўднае прозвішча кінагероя Шцірліца. 11. Рака ў Грузіі. 18. Старадаўняе рускае верхняе адзенне ў выглядзе кафтана з чатырохвугольным адкладным каўняром. 19. Манчжурскі хан, які заснаваў дынастыю Позняя Цзінь. 21. Устаноўлены або ўсталяваны парадак, лад. 22. Расплаўленая маса ў глыбінях Зямлі. 23. Дакумент, распараджэнне на выкананне якой–небудзь работы, на выдачу або адпраўку чаго–небудзь. 24. Удых, а за ім і выдах. 25. Сплаў жалеза з нікелем. 26. Самы высокі мужчынскі голас. 31. Цвёрды матэрыял з вулканізаваных каўчукавых сумесяў. 32. Украінская пісьменніца. 33. Ядомы грыб карычневага колеру з сеткаватай з–пад нізу шляпкай. 35. Фігурны знак у сістэме ідэаграфічнага пісьма. 36. Прадстаўнік аўтаномнай рэспублікі ў Сярэднім Паволжы. 37. Знішчаны архітэктурна–паркавы ансамбль у Вілейскім раёне, адна з рэзідэнцый вядомага дыпламата і кампазітара М. К. Агінскага. 38. Прылада для ручной працы. 39. У царскай Расіі: выхаванец ваеннага вучылішча. 40. Разменная манета Тайланда.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №50*

**Па гарызанталях:** 4. Нататка. 9. Палаш. 10. Ліван. 11. Куратар. 14. Знак. 17. Голас. 18. Вока. 20. Арап. 22. Газ. 23. Кара. 24. Вір. 26. Гад. 27. Аварыя. 28. Парада. 29. Лак. 31. Кар. 32. Абат. 34. Кап. 36. Ложа. 38. Грак. 39. Колас. 41. Донг. 42. Камісар. 44. Патоп. 45. Наган. 46. Ламавік.

**Па вертыкалях:** 1. Інак. 2. Каір. 3. Камар. 5. Ашуг. 6. Аналаг. 7. Клас. 8. Памор. 12. Рог. 13. Таз. 15. Наватар. 18. Вадарод. 19. Караван. 21. Пірат. 23. Карал. 25. Рык. 26. Гак. 30. Каліва. 33. Баран. 34. Ком. 35. Пас. 37. Жолаб. 39. Капа. 40. Сані. 42. Кола. 43. Рака.

*ПРОСТА АНЕКДОТ*

Ва ўпраўленне буйнога банка паступіў сігнал, што ў адным з мясцовым аддзяленняў справы кепска ідуць. Аперацыі амаль не праводзяцца, актыўнасць амаль нулявая. Паслалі рэвізора.

Заяўляецца той з праверкай у самы што ні ёсць рабочы час. Заходзіць – у аперацыйнай зале нікога. З кабінета дырэктара чуваць галасы:

– Бубны ён толькі так мог знесці...

– Калі бубны знес, чырвы засталіся...

– Дзве, вядома, мы яму сунем...

– Дзве – гэта як мінімум...

Рэвізор заглядвае ў кабінет: дырэктар аддзялення і тры клеркі рэжуцца ў карты. Ён вяртаецца ў аперацыйную залу і са злосцю націскае кнопку трывогі: зараз вам будзе! Пачынае завываць сірэна. Рэвізор адпускае кнопку, сірэна сціхае, і з кабінета чуваць:

– Спачатку спакойна свае трэфы забярэм...

– А ход ад каго?

Рэвізор зноў націскае кнопку. Пасля сірэны:

– А цяпер прарэзваем віны...

– Што я казаў, няма ў яго бубнаў!

Не, шалее рэвізор, я вас усё ж такі дастану. Націскае на кнопку ў трэці раз. Адчыняюцца ўваходныя дзверы, з вуліцы заходзіць афіцыянт з піўнухі насупраць, які нясе 4 піва:

– Ды чую я, чую, нясу ўжо...

●

У пад'ездзе дома ля рэспектабельнага мужчыны, што ляжыць на падлозе, стаяць электрык і два ўрачы «хуткай дапамогі». Электрык кажа:

– Нервовы нейкі... Я работу скончыў, званю ў дзверы і кажу: «Мужык, лічыльнік уключаны...»

*ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ*



## Госць, не дзьміся, еш, што ў місе

### "Горка з гародніны"

*300 г буракоў, 3 морквы, 1 салёны агурок, 1 цыбуліна, 150 г яблыкаў, 1 яйка, 5 вялікіх лыжак маянэзу.*

Вараныя буракі і моркву нарэзаць дробнымі кубікамі, частку морквы парэзаць кружочкамі. Дробна парэзаць крутое яйка, рэпчатую цыбулю, яблыкі, пачышчаныя ад скуркі салёныя агуркі. Прадукты пакласці слаямі ў выглядзе горкі, палiваючы кожны слой маянэзам. Аснаванне горкі выкласці кружочкамі морквы. Упрыгожыць "званочкамі" з салёнага агурка. Перад падачай салату вытрымаць на холадзе.

### Варэнікі на пары

*1 бутэлька кефіру або кіслага малака, 1 поўная маленькая лыжка соды, 1 маленькая лыжка солі, мукі столькі, каб цеста адліпала ад рук, але яно павінна быць негустое, лёгкае.*

Цеста раскатаць таўшчынёй 0,5–0,8 см, пасыпаць мукой. Затым выразаць кружкі дыяметрам 7–8 см. У сярэдзіну пакласці начынку і зашчыпаць.

Параварку змазаць маслам, улажыць варэнікі і паставіць у каструлю з вадой. Варыць хвілін 20–30. Для начынкі можна выкарыстоўваць твораг або марожаныя ягады, летам – свежыя ягады. Калі варэнікі будуць гатовыя, змазаць маслам, каб не пазліпаліся. Падаваць са смятанай.

### "Вожыкі"

*500 г ялавічнага або свінога фаршу, 2 галоўкі рэпчатай цыбулі, 2 вялікія лыжкі рысу, 1 яйка, 1 вялікая лыжка тамату–пюрэ, 1 вялікая лыжка зяляніны пятрушкі і кропу, перац, соль, лаўровы ліст.*

Гатовы фарш змяшаць з дробна парэзанай падсмажанай цыбуляй, сырым рысам, пакласці яйка, перац, соль, добра перамяшаць. Сфармаваць невялікія шарыкі, злёгку абсмажыць іх на тлушчы, скласці ў каструлю з тоўстым дном, заліць булёнам ці вадой, дадаць тамат–пюрэ, лаўровы ліст, соль і тушыць на малым агні да гатоўнасці рысу. Пры падачы пасыпаць здробненай зялянінай.

### Пячэнне з цукровай пудрай

*3 шклянкі мукі, 2 яйкі, 250 г масла або маргарыну, 1 шклянка цукровага пяску, 0,5 маленькай лыжкі харчовай соды, пры жаданні дадаць ванільны цукар.*

Яйкі расцерці з цукровым пяском, дадаць мяккае масла, ванільны цукар, усыпаць змяшаную з содай муку і замясіць крутое цеста. Цеста прапусціць праз мясарубку, жгуцікі, што выходзяць з мясарубкі, раскласці невялікімі кучкамі ў выглядзе пячэння на бляху і выпякаць у духоўцы да гатоўнасці. Гатовае пячэнне пасыпаць цукровай пудрай.

*Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.*

*ХАВАЙСЯ У БУЛЬБУ*

# Гуляем у прэферанс

Гуляем мы неяк у прэферанс. Нехта прывёў з сабою сяброўку, таму селі за пульку ўчатырох. Нехта гуляў 6, меў 4 казыры, і ўсё было б добра, каб не расклад 4 на 4. Што стала зразумела пасля першага ж заходу ў казыры. Адпаведная была і першая рэакцыя:

- ... вашу маць!

Паспрабавалі ўрэзоніць:

- Цішэй, тут дама.

Адказ:

- Якая к ... мацяры дама - там чацверты валет!!!

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

# Не куры – не будзе пажару

Кватараваў у адной сям'і ў Кабыльніку. Быў там састарэлы Янук, які нічога не мог рабіць па гаспадарцы, доўгі час праводзіў на лавачцы паблізу ад хлява. Любіў пагаварыць, расказваючы пра маладосць, падзеі вайны. Часта курыў.

– Хочаш ведаць, чаму я такі стары і нямоглы?

– Хачу, хачу, сам жа такі буду.

– Я пра гэта не сам выдумаў, а калісьці чытаў у адной газеце. Слухай і запамінай.

– Калісьці Бог усім жывым істотам вызначыў па 30 год жыцця, каб ніхто не крыўдзіўся, пароўну. Чалавеку здалося, што мала. Бог прыбавіў яму 15 год, а іх адняў у ішака, якому жылося нялёгка. І ўсё адно чалавеку мала. Бог прыбаўляў па 15 год, адбіраючы гэтыя гады ў сабакі, малпы. Вось чаму чалавек першыя 30 год радуецца жыццю, затым 15 год набывае маёмасць, губляе сілы, як ішак (асёл). Потым, што сабака, аберагае нажытае. А апошнія 15 год робіцца падобны на далёкага прашчура.

– Вы, дзядуля, нармальны чалавек, толькі сілы пакінулі.

– Які там нармальны. Памяць не тая, калі што скажаш, не падабаецца маладым, не слухаюць нават.

Дзядуля курыў самасад, а куды кінуў недакурак, я не заўважыў. Размова працягваецца. Раптам адчуваю: пацягнула дымам. Азірнуўся назад – з вялікага рэшата выгарала смецце, якога было шмат на панадворку.

– Дзядуля Янук! Ад курцоў, якія кідаюць недакуркі, запалкі куды папала, часта зыходзяць пажары.

– Не гавары так. Я ж заўсёды тушу.

– Я не курыў, з намі больш нікога не было, дык чаму за намі разгараецца касцёр? Будзе пажар!

Азірнуўся дзядуля. Ускочыў, аслупянеў, а потым нагамі пачаў таптаць языкі агню. Пот градам сыпаў з твара. Затым узяў граблі, венік і "замаскіраваў" чорную пляму. Крыху супакоіўся, загаварыў:

– Будзь добры, нікому не расказвай пра здарэнне. Даведаюцца дамашнія, дык будуць дакараць, насмяхацца, папярэджваць...

– Дзядуля, будзьце спакойны, нікому я не прагаваруся. А вы лепш кідайце курыць.

– Мо, праўда, унучак.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

## ГАРАСКОП 20 – 26 СНЕЖНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

У гэты перыяд пастарайцеся пабыць у адзіноце і не прыслухоўвайцеся да парад пабочных назіральнікаў. Толькі ўласныя рашэнні могуць прынесці карысць.



**Цялец (21.04–21.05)**

Добрыя дні для скарыстання "выпадковага" шанцавання. Магчымая камандзіроўка або прыватная паездка.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Сапраўдны сюрпрыз магчымы ў перыяд з 21–га па 23–га. Наколькі ён добры, меркаваць вам, але нечаканасць будзе поўная!



**Рак (22.06–23.07)**

Амаль да канца перыяду ў вас будзе тужлівы настрой і нежаданне што–небудзь прадпрымаць, каб пазбавіцца ад хандры. Але ўжо з 23 снежня вы адчуеце новы прыліў сіл, а праблемы пачнуць вырашацца самі сабой.



**Леў (24.07–23.08)**

Праявяцца неўласцівыя вам задумлівасць і жаданне прааналізаваць падзеі, што адбываюцца. Вы будзеце схільныя да дэпрэсіі, чым можаце моцна нашкодзіць і сабе, і справе, і блізкім.



**Дзева (24.08–23.09)**

Нейкая значная вестка або нават сустрэча парадуюць сэрца. У той жа час дадасца работы і вытворчых праблем.



**Шалі (24.09–23.10)**

Даволі пустыя дні, калі не лічыць, што спакой вышэй за ўсё. Многія зоймуцца рамонтам або навядзеннем глянцу вакол сябе. Аднак ёсць рызыка праявіць валюнтарызм і ўліпнуць у непрыемасці.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Калі 24 снежня вам можа пашанцаваць, чаго вы не чакалі, то 30 можаце мець вялікія непрыемнасці. Будзьце асцярожныя з "добразычліўцамі", адмоўцеся ад спакусы пазласловіць...



**Стралец (23.11–21.12)**

Усё, што вы намячалі, але не паспелі зрабіць у гэтым годзе, пастарайцеся завяршыць да 22 снежня. Асабліва гэта тычыцца нематэрыяльнай сферы: зносіны, узаемныя стасункі, навучанне.



**Казярог (22.12–20.01)**

Скончыцца перыяд вялікіх клопатаў. Але з гэтага дня і амаль да канца студзеня вам будуць вяртацца вашы "інвестыцыі" як ад людзей, так і ад справы.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Не рвіцеся наперад, калі ўсе затрымаліся на месцы. Можа здарыцца, што ваш "галоп" у жаданні ўсё навокал перараб[illegible]ць, скончыцца вялікімі фінансавымі стратамі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Хвароба родных змяшае ўсе планы і прымусіць перагледзець уласныя паводзіны. Вялікія перамены ў дзелавым жыцці.

